# NARODNYJA KAZKI



# НАРОДНЫЯ КАЗКІ

ADAM VARLYHA

# FOLK TALES

## ABOUT YARYLA'S LAND

Book 2

PUBLISHED By THE ZARANKA
NEW YORK — 1969

ADAM VARŁYHA

# NARODNYJA KAZKI

## PRA KRAJINU JARYŁY

Sšytak druhi

# НАРОДНЫЯ КАЗКІ

## ПРА КРАІНУ ЯРЫЛЫ

Сшытак другі

VIDAŃNIE ZARANKA
NEW YORK — 1969

# ЗАЙЗДРЫВАЯ БАБА

Жыў на сьвеце надта добры чалавек, які памагаў усім бедным і нешчасьлівым. Аднаго разу ехаў бог Ярыла на сваім белым кані, убачыў яго й пахваліў за ягоныя дабраздействы. Добры чалавек па шчырасьці прызнаўся богу Ярылу, што ён мае вялікую ўцеху з таго, што робе дабро для ўсіх людзей, але суседзі падсьмейваюцца з яго, а нават родная маці ўпікае яго кажучы: „Ці паможа хто табе, калі ты ня будзеш магчы працаваць?"

— А не бядуй, — кажа бог Ярыла, — калі ты станеш недамагаць, дык тады я прышлю да цябе свайго белага коніка. —

Чалавек і надалей памагаў бедным і нешчасьлівым. Аднаго разу ён засумаваў, што недалічваецца сваіх равесьнікаў і прэціляў. Ужо даўна, даўна ён пахаваў сваю сварлівую матку. Ягонае цела стала нейкае нягнуткае й мляўкае; часта й слабасьць і млосьць прышыбаюць; часта нейкая дыхавіца дакучае. Аднаго разу ён успомніў пра спатканьне з богам Ярылам, які абяцаў яму прыслаць свайго белага коніка, ды ўняўпрыцям зірнуў у вакно, аж ля ґанку стаіць белы конь. Калі ён вышаў і толькі рукой дакрануўся да каня, дык і сам ня сьцяміў, як апынуўся на кані. Тады яму стала й весела, і лёгка, і прыемна. Ён ня помніў ці ехаў па зямлі ці ляцеў у паветры на кані, але апынуўся на нейкім квяцістым дзядзінцы ля цудоўнага пекнага палацу. Тут ён астаўбаваўся на жыцьцё. Гэткага шчасьлівага й бязтурботнага жыцьця ніхто ніколі ня меў. Тут не турбавала чалавека ні ежа, ні пітво, ні нуда, ні клопаты. За кароткі час ён тут агледзіў усе куточкі й заканучаркі.

На краі гэтай шчасьлівай і прыгожай прасторы стаяла панурая будыніна, шталтам нейкай акіненай прыдарожнай карчмы са стадолай. З-за цікавасьці ён панікнуў і туды. Там пасярод будыніны была нейкая прорвіна. Калі ён туды зірнуў, аж там поўна людзей, а між іх рознай поскудзі: і жабаў, і рапухаў, і вужакау, і рознай машкары, — і драбнейшай і буйнейшай. Людзі енчацца й кашляюць, чхаюць, калі гэта жамяра налазе ў горла й нос. Між гэтых нешчасьлівых ён убачыў і сваю матку,

якая пакутліва на яго пазірала, быццам поглядам прасіла ратунку. Пакутлівы погляд маткі так яго расчуліў, што ён ня мог там далей заставацца. Калі ён выходзіў з тэй будыніны, дык ля самых дзьвярэй напаткаў бога Ярылу на сваім белым кані. Ярыла ў яго й пытае:

— Чаму ты гэткі смутны й неспакойны?

— Ведаеш сам, божа, што я ўсё сваё жыцьцё дапамагаў бедным, гаротным і нешчасьлівым людзям і толькі з гэтага меў уцеху ў сваім жыцьці. Але-ж гэткіх пакутнікаў, якіх тут я бачу, ня было й няма на сьвеце. Я тут жыву хоць унадзвычай вялікім шчасьці, але я тут стаў такім нікчемным, што немагу дапамагчы нават сваей роднай маці. — Гэтак паскардзіўся добры чалавек богу Ярылу.

Бог Ярыла вырваў валасок з грывы свайого каня, падае чалавеку й кажа:

— Вазьмі гэты валасок, апусьці яго ў тую прорвіну да свае маткі, а калі яна возьмецца за валасок, дык ты й выцягнеш яе. —

Калі той чалавек ўзяў валасок з рук бога Ярылы ды апусьціў у тую прорвіну, дык ён выцягнуўся аж да рук ягонай маткі. Калі матка толькі дакранулася да валаска, дык уся тая поскудзь (жабы, рапухі, вужакі) паадвальвалася ад ейнага цела, а машкара пасыпалася з носу, роту й вушэй. Калі хто з іншых пакутнікаў дакранецца да ягонай маткі, дык і ад яго цела адвальваецца розная поскудзь і адсыпаецца розная жамяра. Ён за валасок цягне сваю матку, а за яе начаплялася іншых пакутнікаў ды вянком адзін за аднаго болі й болі чапляюцца. Калі галава ягонай маткі выходзіла з тэй прорвіны, дык яна азірнулася на дол і ўбачыла, што за яе шмат людзей начаплялася, а там далей адзін за аднаго чапляюцца, каб выратавацца ад тых пакут. Гэта баба была ганарыстая й зайздрывая: яна хацела, каб толькі яна адна была выратавана, а каб усе іншыя людзі й надалей пакутвалі. Яна страсанулася, каб іншыя людзі ад яе адсыпаліся. Ад таго ейнага ўструсу валасок парваўся, дык і яна сама разам з іншымі упала на дол на далейшыя пакуты.

# ПЛОТ З САЛОМЫ

Бог Ярыла заўсёды клапаціўся пра дабрабыт нашых людзей. Ён ня толькі матар'яльна узбагаціў наш народ, але надарыў яго й ведамі пра будучыню. Ён дазволіў нашым людзям ведаць колькі яны будуць жыць і калі хто памрэ.

Бог Ярыла часта аб'яжджаў сялібы нашых людзей, цешыўся з іхняга жыцьця, ды глядзеў можа дзе трэба зрабіць нейкае паляпшэньне. Аднаго разу ён гэтак на сваім белым кані аб'яжджаў сялібы людзей і ўбачыў чалавека векам нестарога, а выгляд ён меў смутны й пануры. Ён споўдаецца ледзь нага-за-нагу ды з саломы плот гародзе. Ярыла спыніў свайго каня дый пытае ў чалавека:

— Чаму ты, чалавеча, гэткі смутны й пануры, як-бы з-пад зямлі вылезшы. Дый работа твая недарэчная, як дзяціная. Ці доўга-ж пастаіць гэты твой плот з саломы? —

— Ня толькі тыя смутныя й пануры, што з-пад зямлі вылезьлі. Тыя мусяц быць яшчэ болі смутнымі й панурымі, каму трэба лезьці пад зямлю. А што плот з саломы, дык і гэта ня дзіва, бо ён да восені дастое. А сам-жа, божа, ведаеш, што я на Дзяды памру. А хто пасьля мяне будзе жыць на гэтай сялібе, дык няхай сабе вясной загародзе лепшы плот. Ці ведаеш, божа, што мне цяпер нічога ня міла. — Гэтак адказаў чалавек богу Ярылу.

Бог Ярыла пашкадаваў у сваіх думках, што ён занадта раздабрэў, што надарыў людзей ведамі пра іхную сьмерць. Гэткія весткі шкодныя для іх саміх і для іх патомства. Тыя людзі, якія ведалі пра сваю блізкую сьмерць, хадзілі панурыя, маркотныя ды ніякіх запасў сабе не рабілі, а нават ня рупіліся пра свае хаўтуры ды прыкладзіны. Калі ім хто прыпамінаў пра гэта, дык яны адказвалі прыказкай: „Пасьля маей сьмерці, дык мной хоць плот падапры".

***

Калі толькі бог Ярыла пазбавіў нашых людзей ведаў пра іхную сьмерць, дык яны сталі ўзбагачацца ведамі пра жыцьцё. Яны сталі рупныя працавітыя запасьлівыя, ды гэткім чынам прыдбалі свайму патомству безьліч match рознага матар'яльнага багацьця. А народ заможны дбае й пра духовы скарб. Ён паўкладаў шмат песьняў, казак, прыказак ды танцаў. І такім чынам ма-

тар'яльны й духовы скарб нашых прашчураў зрабіў наш народ багатым і слаўным на ўвесь сьвет. Але вось зайздрывыя нашы суседзі ды сквапныя на чужую працу й славу, зруйнавалі наш край, расьцягнулі наша багацьце, а нават сталі прысвойваць сабе нашу мінуўшчыну, а наш народ зрабілі сваімі нявольнікамі.

## БУСЕЛ

Даўна, надта даўна гэта было, калі амаль трацiна нашай бацькаўшчыны была заліта вадой і звалася Палескім морам. У тыя часы па нашай зямлі езьдзіў бог Ярыла на сваім добрым белым кані. Ён разглядаў, якое паляпшэньне зрабіць на зямлі, каб лепі нашым людзям жылося. Ярыла заўважыў, што на зямлі развялося шмат living рознай поскудзі: вужакаў, сьліўняў, яшчарак, рапух, жаб і іншай брыды. Гэта поскудзь шкодзіла, як людзям, гэтак і жывёле й птушкам. Бог Ярыла сабраў гэту брыду ў кашэль, а кашэль шчыльна завязаў. У гэты час ішоў чалавек са сваей жонкай рыбу лавіць у Палескае мора. Той чалавек зваўся Бусел. Бог Ярыла поддаў чалавеку на плечы той кашель і сказаў укінуць у мора. Калі Бусел з жонкай падышлі да мора, дык жонка стала намаўляць Бусла, каб паглядзець, што ў тым кашалі, бо там нешта шастала й пішчэла. Бусел згадіўся. Калі толькі ён развязаў кашэль, дык раптам адтуль кінулася розная поскудзь і распаўзлася па санажаці, па балоце, па лесе ды імшары.

Бусел стаіць з пустым кашалём і ня ведае, што рабіць, аж бача, — да яго едзе бог Ярыла. Калі Ярыла ўбачыў Бусла з пустым кашалём, дык ён не на жарт разгневаўся на яго й ягоную жонку:

— Вашы цікавыя насы нарабілі шмат клопату, і мне, і ўсім людзям. Няхай-жа вашы насы яще подаўжэюць. Вы й усё ваша патомства будзеце вякамі па санажацях, лясах ды балотах хадзіць ды зьбіраць тую брыду, што вы самі распусьцілі.

У гэты час у Бусла й ягонай жонкі павырасталі доўгія насы, і яны ператварыліся ў птушак. Бусел быў адзеты ў белую сарочку й чорныя хварбованыя ў балотнай рудзе порткі, а жонка была ў белай сарочцы й гэтаксама хварбованай у балотнай рудяе чорнай спадніцы, дык загэта буслы маюць пярэднюю частку цела белую, а заднюю чорную.

Буслы ўсё-ж блізкія сваякі нашым людзям. Яны заўсёды

й селяцца пры людзкіх сялібах, а людзі памагаюць ім будаваць гнёзды. Чалавек сьсячэ верхавіну ў дрэве ды ўсьцягне й замацуе там на дрэве барану, а на баране бусел кладзе гнядо.

Наш чалавек прыхільна ставіцца да свайго пабраціма бусла й памагае яму, а бусел гэтаксама чалавеку ніякай шкоды ня робе. Наш селянін уважае за гонар, калі Бусел пасяліўся на ягонай сялібе.

## ЛАЗЮК

У старадаўныя часы бывала, што набожныя людзі манахі пакідалі нават і манастыр ды йшлі на пушчу, каб быць далей ад спакусаў сьвету, і там у самоце маліцца Богу й несьці слова божае да тых, якія там у лесе ім надаруцца. І вось гэткім чынам адзін гэткі чалавек божы пакінуў шумлівае места ды пашоў у далёкую пушчу. Доўга ён ішоў і на сваім шляху наўрэўся на вялікую раку. Ён тут спыніўся, надраў бяросты, зрабіў бяроставы чаўнок, на ім пераплыў гэту шырокую, але спакойную раку, схаваў у лазовым кусьце свой прымітыўны чаўнок, а сам пашоў далей. Аднаго адвячорку ён напаткаў вострава ў балоце. Пасярод гэтага вострава была палянка. З аднаго боку палянкі пад вялізным дубам стаяла хатка-будка. Заходзіць ён у хатку не хацеў, але сачыў за ей здалёку. Калі сонца было ўжо зусім на заходзе, дык з хаткі-будкі вышаў ужо немалады чалавек і стаў пераскакваць праз колоду, якая ляжала тут ля хаткі. Ён пераскоча раз і кажа: „Гэта мне, Божа!" Пераскоча другі раз і кажа: „Гэта табе, Божа!" І гэткім чынам ён пераскочыў з паўкапы разоў праз тую калоду. У гэты час высыпалі з хаты ягоныя дзеці, адвярнуліся тварам да захадзячага сонца дый запелі:

Сонейка каласок
Закаціся за лясок.
Там твае дзеткі
Сыры скрыляюць,
У масла мачаюць
Й цябе, сонейка,
Дажыдаюць.

Чалавек божы адышоўся далей у лес і лёг адпачываць. Калі назаўтрая раніцай пры ўсходзе сонца ён падышоў ізноў да гэтай самай палянкі, дык ізноў з хаткі вышаў той самы чалавек,

што ўчора ўвечара скакаў праз калоду ды йзноў гэтаксама стаў скакаць праз калоду дый прамаўляць: „Гэта мне, Божа!" А другі раз: „Гэта табе, Божа!" Калі чалавек кончыў свой танец праз калоду, дык манах падышаў да яго й пытае:

— Скажы ты мне, чалавеча, што гэта ты нядаўна рабіў?

— Як, што рабіў? Богу маліўся! — адказаў лясны чалавек.

— Што-ж гэта за малітва? Ці-ж Богу патрэбна гэткая малітва? — кажа монах.

— Мой бацька гэтак маліўся й мяне гэтак навучыў, а я ніякай іншай малітвы ня чуў ня ведаю. А я ня ведаю ці гэткая малітва Богу патрэбна ці не, — одказаў лясны чалавек.

Манах разгаварыўся з лясным чалавекам. Лясны чалавек сказаў, што яго завуць Лазюк, і што далей на балоце ёсьць іншыя вастравы, а на іх гэтаксама живуць людзі, але ён ня ведае, як яны моляцця Богу, а можа й зусім ня моляцца, бо ён з тымі людзьмі спатыкаецца рады-ў-гады. Манах расказаў Лазюку, што за іхным балотам, за вялікай ракой і палямі ёсьць вялікае места, дзе ёсьць вялікія й прыгожыя бажніцы; а там-то пасапраўднаму людзі моляцца Богу; дый пытае ў Лазюка:

— А ці хацеў-бы ты пабачыць тыя пругожыя бажніцы ды навучыцца пасапраўднаму Богу маліцца?

— А чаму-ж бы я не хацеў? — адказвае Лазюк: — Але-ж я туды не патраплю.

Монах ахвяраваўся завесьці Лазюка ў вялікае места ды паказаць яму тыя прыгожыя бажніцы ды паказаць, як пасапраўднаму людзі моляцца Богу. Яны пайшлі. Калі яны дайшлі да вялікай ракі, дык паўстала пытаньне, як пераехаць на другі бераг ракі, бо на манахавым бяроставым чаўне можа ехаць толькі адзін чалавек. Манах стаў рыхтавацца, каб рабіць другі чаўнок для Лазюка.

— Дармо! Ня турбуйся, чалавеча, я й перайду, — кажа Лазюк.

І пашоў Лазюк па вадзе, як па звычайнай зямлі. Ён перайшоў перш, чымся манах пераехаў на сваім бяроставым чаўне. Манах у сваім чаўне чыста змок, а Лазюк перайшоў зусім сухі, нават анучы ў лапцях не прамоклі. Манах схаваў свой чаўнок у лазовым кусьце, і яны пашлі далей.

Ішлі яны некалькі дзён, калі нарэшце ўбачылі места з высокімі залатымі вежамі на бажніцах. Падышлі бліжей. Монах нічога не шманае, а Лазюк заўважыў, што на вуліцы каля бажніцы нячысьцікі шыхалюцца.

Калі ўвайшлі ў сярэдзіну бажніцы, дык убачылі, што яна амаль напоўнена людзьмі, якія стаялі на каленях і маліліся Богу. На аўтары й на сьценах гарэлі сьвечы, а бажніца напоўнена пахнючым дымам. На аўтары сьвятары ў залатым адзеньні моляцца Богу, а хор цудоўна сьпявае. Лазюк падумаў: — „Вось дзе праўдзівая малітва. Тут сапраўды Бог жыве.” Глянуў Лазюк на левы бок, дзе за слупамі было вальнейшае месца, ажно там стаяць два нячысьцікі ды трымаюць распрастаную вялізную валовую скуру, а на ей намалёвана шмат людзей. Між іх Лазюк пазнаў і тых сьвятароў, што маліліся на аўтары, і тых пяюноў, што хораша пелі Нават быў намалаваны й той манах, з якім ішоў Лазюк да тэй бажніцы, дый сам Лазюк. Перад кожным малюнкам былі пастаўлены рысачкі й кропачкі. Перад іншымі шмат, а перад іншымі толькі трохі. А перад Лазюковым малюнкам ніякіх значкоў ня было. Пасьля гэтыя нячысьцікі пачалі одзін у ваднаго гэтую скуру адбіраць ды тузацца. Пачапляліся за яе рукамі й зубамі ды кожны цягне да сябе. Нарасьце адзін кадук раптам выпускае скуру і з рук і з зубоў, а другі, як грымнецца аб цагляную падлогу што аж нагамі накрыўся, а пасьля спрытна калі затрасе сваімі капыцікамі ў паветры, што й Лазюк ня вытрываў ды засьмяяўся. Раптам гэты кадук усхапіўся ды й пад Лазюковым малюнкам рысачку паставіў. Пасьля гэтага нястала ні нячысьцікаў ні скуры.

Пасьля набаженства манах і Лазюк пашлі назад да таго лесу адкуль і прышлі. Калі яны прышлі да вялікай ракі, дык манах пачаў шукаць у кусьце свой бяроставы чаўнок, а Лазюк паймкнуўся пераходзіць раку па версе вады. Але вада яго ўжо ня трымала, і ён уляцеў у ваду ледзь не па пояс. Набага было плытка, ато ўтапіўся-б. Вылезшы з вады Лазюк расказаў манаху, што бачыў на вуліцы каля бажніцы шмат нячысьцікаў, расказаў і тое як кадукі між сабой тузаліся ў бажніцы за валовую скуру ды што на тэй скуры было намалёвана ды напісана. Лазюк прызнаўся манаху, що калі нячысьцікі ўвялі яго ў сьмех, дык ён у бажніцы засьмяяўся, а нячысьцік пад ягоным малюнкам напісаў рыску. Манах выслухаўшы Лазюка сказаў:

— Бяры, чалавеча, мой чаўнок ды едзь на сваю палянку, а там маліся гэтак, як і дагэтуль маліўся. У вас простае жыцьцё, простая й малітва, але й спакусаў няма. А я пайду назад да места ратаваць бажніцы, каб нячысьцікі не запанавалі над імі.

# ЗЯЗЮЛЬКА

У старадаўныя часы жыла ў нашай краіне прыгожая дзяўчына. Яна звалася Зязюлька. Да яе заляцаліся дзяцюкі тэй ваколіцы, дзе яна жыла, але Зязюлька пагарджала імі й высьмейвала іх. Нарешце да яе пасватаўся самы лепшы дзяцюк нашай краіны. Зязюлька пачала высьмейваць і яго.

Калі аднаго разу ў вялікую гарачыню Зазюлька з маткай жалі, паськідаўшы верхнія вопраткі, дык матка пачала угаварваць Зазюльку, каб яна ішла замуж за таго паважнага дзяцюка, што да яе пасватаўся, кажучы:

— Што ты сабе думаеш, дзяўчына? Гэта-ж самы лепшы дзяцюк нашай краіны: і працавіты, і стройны, і добры; жыве ў дастатку, паважае людзей і яго людзі паважаюць. Ягоная-ж радня спрадвякоў самая слаўнейшая ў нашай краіне.

— Ат! Я й слухаць не хочу пра гэтых „сваіх, тутэйшых" запечнікаў, — кажа дзяўчына, — „Добру, добрай радні", — няхай ён будзе хоць чорт з болота, абы ён мне спадабаўся. Я люблю чужых далёкіх незнаёмых. Я гатова выйсьці замуж на край сьвету. Для мяне там бацькаушчына, дзе будзе жыць той, што мне спадабаецца. —

Настала паўдня. Зазюлька з маткай сталі ладзіцца ісьці дамоў палуднаваць. Матка ўзяла сваю вопратку й надзела. А калі Зязюлька стала браць сваю вопратку, аж пад ей ляжала таўстая чорная вужака, якая марудна папаўзла ў куст.

Калі яны прышлі ў хату, дык там ўжо засталі чужацкага дзяцюка Якуба, які да Зязюлькі прышоў у сваты. Ён быў чарнамазы з чорнымі валасамі, і адзеты ў чорным. Зазюлька адразу спадабала гэтага чужацкага дзяцюка й згадзілася за яго выйсьці замуж. Сват паведаміў, што яму няма часу доўга цягнуць з вясельлем. Гэтага-ж дня малады павінен са сваей маладой ехаць у свой палац. Колькі матка ні ўгаварвала, ні прасіла, каб яна засталася на некалькі дзён дома, каб разгледзіцца, што за чалавек гэты малады, але дзяўчына, ані той дух, ня хача пачакаць і некалькі гадзінаў, кажучы:

— Я за ім, за гэткім прыгожым, хоць на край сьвету паеду.

Калі сонца было на захадзе, да Зязюлькі на двор прыехаў хурман у карэце на чацьвёрцы чарных коні. Якуб з Зязулькай

селі ў карэту зачыніліся й паехалі. Шэрай гадзінай яны ўяжджалі ў лес. Стала цёмна. Сьпярша коні беглі, толькі карэта зыбалася па карэньні. Пасьля коні пашлі памалу. Карэта стала гойдацца. Колы сталі завальвацца ў кулдобы, то пераяжджаць праз пні й калоды. Ад нязвычайнага калыханьня ў бакі Зазюлька зьнемагалася. Яе змарыў сон. Зазюлька апёрлася на плячо Якуба й заснула. Яна сасьніла брыдкі й страшны сон:

— Яна адна сярод балота. Вадзянік вылез з іржавай багны, расплёў ейныя косы ды расчосвае сваімі капцюрамі. Лесавік рагоча на сухой елцы, аж рэха адбіваецца. У ейнае цела паўпіваліся п'яўкі, а па целе бегаюць яшчаркі. Агідная сьцюдзёная рапуха ціснецца да ейнага роту. Яна хоча рукамі адкінуць гэту поскудзь ад цела, але ня мажа паварушыць ні нагамі ні рукамі, бо вужакі апуталі рукі й ногі. Яна з агіды, з холаду й страху трасецца, як асіна. —

Калі Зазюлька ачхнулася, дык было цёмна. Яна ад холаду й страху дрыжэла, як у трасцы. Успомніўшы, што з Якубам ехала ў ягоны палац, стала клікаць: „Якуб, Якуб! Дзе мы? У гэты час, як-бы ў вадказ на ейнае пытаньне у паветры нешта дзіка зарагатала, аж рэха пашло.

Стала на дзень займацца. Зязюлька разглядаецца, дзе яна. Аж тут няма ні ейнага чарнамазага Якуба, ні карэты, ні коні. Яна адна сярод дзікага балота ляжыць на карчы. Наўкола прорвы іржавага балота. Воддаль на купіне стаіць сухая елка, а на ей кугакае сава . . .

Калі яна прышла да памяці, дык яшчэ болі закалацілася, затраслася, як асінавы лісток, і ад страху, сораму й холаду сьціснулася ў камячок і сталася маленькай. Яна перавярнулася ў шэрую птушку. Зязюлька паляцела ў сыры бор, села на суку й стала клікаць свайго здрадніка-чужынца Якуба:

— Якуб! Якуб! Якуб! . . . . . . . . .

***

Людзі, дасьведчаныя жыцьцёвай практыкай, гэтак дзеялі пра Зязюльку:

— Затое, што Зазюлька пагарджала й нехтавала сваіх добрых людзей, з якіх і сама паходзіла, а перавагу аддавала чужым невядомым і незнаёмым, а нават варожым людзям, дык бог Ярыла перастаў над ей апекавацца, а нячысьцік Лясун гэта ўсё чуў, калі ў выгладзе вужакі ляжаў пад ейнай вопраркай. Ён у выглядзе чужанецкага дзяцюка прышоў да Зазюлькі ўсваты,

за якога яна й вышла замуж, і які яе завёз у балота ды пакінуў на карчы. Ёй толькі здавалася, што яна едзе ў карэце, а Якуб і вёз яе на карчы. Калі яна агоўталася, што адна сярод балота ды стала пытацца: „Якуб, Якуб. Дзе мы?" дык гэты лясун з радасьці, што сакпіў з дзячыны, зарагатаў аж рэха пашло. Калі Зязюлька перавярнулася ў птушку, а ейны мужык Лясун яе адчураўся, дык яна гнязда для сваіх дзяцей ня робе, а подкідае свае яечкі ў гнёзды іншых птушак, а сама аднатонным голасам клікча свайго здрадніка чужынца Якуба. —

А гэта было так даўна, калі нашы прашчуры верылі ў бога Ярылу.

## ДЗЯЦЮКІ ЧУЖЫНЦЫ

У даўныя часы з аднэй вёскі хлопцы выехалі ў дарогу на некалькі тыдняў. Дзяўчатам гэтай вёскі стала маркотна бяз хлопцаў, бо няма каму ігрышча справіць, няма з кім пасьпяваць, падушкураваць, павесяліцца.

— Каб яны не даждалі, колькі мы будзем па іх бедаваць, — кажуць дзяўчаты. — Няхай лепі яны па нас бядуюць, а ня мы па іх! Мы й бяз іх зможем пазабаўляцца, павесяліцца. А можа якія хоць падарожныя хлопцы-чужынцы да нас завітаюць. —

Дзяўчаты пашлі ў пустую прыдарожную карчму, што стаяла пры гасьцінцы, воддаль ад вёскі, ды распачалі свае гульні. Яны пелі, танцавалі пад песьні, камадыяніліся, сьмяяліся, жартавалі, сваволілі. Нечакана дзьверы адчыняюцца, і ў карчму ўвальвае грамада незнаёмых дзяцукоў. Дзяўчаты раптам змоўклі й спалохана падаліся ў кут. Але й гэтыя дзяцюкі як-бы збантэжана спыніліся ля дзьвярэй. Яны перапрасілі дзяўчат, што перашкодзілі ў іхнай гульні, ды пры гэтым папрасілі дазволу разам з імі патанцаваць, пазабаўляцца. А гэтыя хлопцы, як адзін добра одзетыя, прыгожыя, уважныя ў вабходжаньні, ветлыя, вясёлыя. У іх нават быў і свой дудар, што вельмі ўсьцешыла дзяўчат. Адразу распачаліся танцы. Усе хлопцы спрытна танцавалі, падпяваючы; яны сьмяяліся, душкуравалі, а дзяўчаты не маглі нацешыцца з іх. Пры гэткай вясёлай забаве, хутка праляцяў час, аж пад паўнач. Дудар перастаў іграць, а адзін з дзяцюкоў сказаў:

— Як відаць, мы ўсе ўжо трохі замарыліся. Пара адпачыць і падсілкавацца. —

Трое з дзяцюкоў выскачыла вон, ды неўзабаве вярнуліся. Яны прынясьлі пітво й закуску, расставілі на стале ды запрасілі ўсіх сесьці за стол.

Калі дзяцюкі з дзяўчатамі пасадзіліся за стол ды сталі частавацца, дык у ваднэй дзяўчыны выпала хустачка з рук. Яна — цуп! і апусьцілася пад стол, каб дастаць хусьцінку. А падымаючы хусьцінку, яна зірнула на ногі дзяцюка, з якім сядзела, а ў яго ня ступні, а лапы. Калі яна зірнула на ногі іншых дзяцюкоў, аж і ў іх на нагах лапы. Ускочыўшы з зямлі яна хацела бегчы вон, але дзяцюк яе стрымаў і просе застацца. Трымаючы адну руку на грудзях, а другую з хустачкай пры роце, яна кажа: „Мне зрабілася блага. Я на часінку выбегу." Калі ейны дзяцюк ня стаў яе трымаць, дык яна стэсам кінулася да дзьвярэй. Шмыкнула за дзьверы ды бяз памяці панеслася дамоў. Прыбегшы дамоў, яна кінулася ў пасцель і бяз памяці пралежала болі за тры тыдні.

Досьвіткам мацеркі паўставалі прасьці й кожная дзівіцца, што дачкі дома няма. Як разьвіднела мацеркі пачалі забягаць адна да аднэй і пытацца пра дачок. І тут выявілася, што ніводная дзяўчына дома не начавала.

Мацеркі грамадой пашлі ў тую пустую карчму, што стаяла ля гасьцінцу. Калі яны туды ўвышлі, дык памлелі ад страху. Усе іхныя дзяўчаты покатам ляжаць на доле падушаныя.

Калі акрыяла ад хваробы тая дзяўчына, якой пашэнціла ўцячы з карчмы, дык яна расказала ўсім мацеркам пра загінеьных іхных дачок.

Пасьля гэтага страшнага выпадку прайшло шмат гадоў. У гэтай вёсцы шмат нарасло маладых дзяўчат, але як з гэтай вёскі, так і суседніх — дзяўчаты высьцярагаліся сяброўства з дзяцюкамі-чужынцамі. Яны часта паўтаралі:

— Дзяцюк-чужынец — тое самае, што й чорт лазаты.

## МЯДЗЬВЕДЗЬ

У ваднэй з пушчаў нашых лясных абщараў жыў дужы, але гультаяваты чалавек. Ён летам лазіў па дрэвах па борцях і выдзяраў мёд. Надзярэ мёду, наесца ды ляжыць у лагве датуль, пакуль другі раз не захоча есьці. На зіму гэты чалавек назапасіўшы мёду, клаўся ў лагво, і там лежачы еў мёд і ссаў свае пальцы. За тое, што ён ведаў, дзе знайці мёд, яго прызвалі „Мед Вед" — Міадзьведзь.

Аднаго разу, калі Мядзьведзь укруціўшуся мохам лез на дрэва дзёрці мёд, там праяжджаў бог Ярыла на сваім белым кані. Мядзьведзь, каб спужаць каня бога Ярылы, скалатнуў прыладжанымі каўтунамі й дзіка зароў. Добры конь бога Ярылы астанавіўся, а Ярыла сказаў Мядзьведзю:

— За тое, што ты бяз літасьці заўсёды нішчыш мае сьвятыя мушкі (пчол) ды яшчэ хацеў спудзіць майого добрага каня, каб мяне ськінуць на зямлю, дык будзеш ты й усё тваё патомства трасьці гэтымі касмылямі, будзеш заўсёды лазіць па дрэвах, а па зямлі хадзіць чацьвярнёй; а зімой будзеш ляжаць у лагве ды ссаць лапу. —

Дык вось з таго часу мох, якім быў укруціўся Мядзьведзь прырос яму да скуры. Ён стаў па зямлі бегаць чацьвярнёй. Раз'еўшыся летам (на запасіўшы лою), кладзецца на зіму ў лагво й там ляжыць да вясны.

Ад таго першага Мядзьведзя, разьвяліся мядзьведзі на землі.

## КАНЮХ

Летам часта можна бачыць, як над нашымі палямі плыве вялізная белая птушка ды жаласным піскілівым голасам крычыць: „Пі-і-іць! Пі-і-іць! Пі- і- іць! Гэта канюх.

У першыя вякі жыцьця ў нашым краі, сам бог Ярыла клапаціўся аб дабрабыце птушак, а далей стаў іх прывучаць, каб яны самі дбалі аб сабе. Калі сталі высыхаць крыніцы, дык загадаў усім птушкам разграбаць пясок ды рабіць ставы для запасу ва-

ды. Калі Ярыла загадаў канюху выходзіць на работу капаць стаў, дык ён пагардліва адказаў:

Няхай гэтай работай займаюцца лебедзі, гусі ды качкі, бо ім плаваць трэба, а я й нядумаю гэтай работай займацца. А для піцьця ці-ж мне шмат трэба вады? Для мяне хопе некалькі капак расінак сабраць ці са шчэрбіны ў камені напіцца дажджовай вады.

— Глядзі-ж ды ня кайся, — сказаў бог Ярыла: — будзеш некалі з плачам успамінаць гэта сваё зухвальства, але будзе позна. А маей вады з рэк, вазёр, крыніц, руччоў і ставаў піць не важся. —

Вось летам у часе сухменяў, калі росаў не бывае, канюх лётае над палямі й маркотным голасам крычыць: „Пі-і-іць! Пі-і-іць! Пі-і- іць! ... ... ...”

## КРОТ

У даўныя часы бог Ярыла стаў прывучаць вялікіх і малых зьвяроў да працы, каб яны самі дбалі пра свой дабрабыт. Ён загадаў зьвяром дарогу праводзіць праз лес. Усе вялікія й малыя жывёлы працуюць, а толькі адзін крот перекачваецца з боку на бок ды нічога ня робе.

— Чаму ты, крот, нічога ня робіш? — запытаўся бог Ярыла.

— А нашто мне тая дарога? Я малы. Дзе я прайду, там мая й дарога. Мне бяз розьніцы ці на версе ці пад зямлёй, — сказаўшы гэта патачыўся ў зямлю.

— За тваю непаслухмянасьць забараняю табе вылазіць на верх зямлі. Ты вякамі будзеш жыць пад зямлёю, будзеш там шукаць сабе спажывы. А калі уздумаеш вылезьці на верх зямлі, каб пабачыць цуды яснага сьвету, дык на тым месцы й сквітуешся, дзе вылез, — гэтак сказаў бог Ярыла.

Вось з таго часу крот застаўся назаўсёды жыць пад зямлёю. Там нараджаецца, там вырастае; там у зямлі цэлы свой век жывё: капаецца, шукае чарвей на спажыву, сплятае іх у клубок у запас, каб не распаўзьліся. Там ён робе гняздо для сваіх дзяцей. У зямлі крот днуе й начуе; там ён летуе й зімуе. А калі няўмысьле вылезе наверх, дык зараз-жа тут і ўмірае.

## ЖОРАЎ

Аднаго разу жораў стаў ганарыцца сваім ростам і вагой, кажучы:

— Вось дзе веліч. Вось цяжар. Калі я буду садзіцца на дрэвы, дык увесь лес паламлю. Будзе каіцца бог Ярыла, што даў мне гэткі цяжар. —

— Ня я буду каяцца, што даў табе цяжар, але ты будзеш каяцца, што маеш шкодны намер. Вось-жа я табе зусім забараняю садзіцца на дрэвы, — сказаў бог Ярыла.

І жораў ніколі на дрэва не садзіцца.

## ДЗЕД І КОЗЫ

Жылі дзед і баба ў сваей маленькай хатцы. Дзед меў пеўніка, а баба мела курку. Калі настала вясна, дык пеўнік і курка пашлі на двор ды сталі капацца на сметніку. Пеўнік знашоў бабінку, а курка знашла гарашынку. Пеўнік прынёс бабінку й аддаў дзеду, а курка прынясла гарашынку й аддала бабе. Дзед пасадзіў сваю бабінку ў хаце пад палком, а баба пасадзіла сваю гарашынку ў хаце пад лаўкай.

Баба рабіла ў хаце хатнюю работу, а дзед ляжаў на печы ды прамаўляў:

— Расьці, бабок, пад палок! А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад палок! А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад палок! А гарошык пад лаўку!

Боб узышоў і вырас да самага полу, а гарошык узышоў ды слаўся пад лаўкай. Дзед зьлез з печы ды рассунуў дошкі палка й даў волю бабку расьці вышэй. Дзед палез на печ, лёг там ды прамаўляе:

— Расьці бабок пад сталёк! (столь), А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад сталёк! А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад сталёк! А гарошык пад лаўку!

Боб як стаў расьці, дык вырас аж да самай столі. А гарошык расьце ды сьцелецца пад лаўкай. Дзед устаў, палез на гару, рассунуў дошкі столі ды даў волю бобу расьці вышэй. Дзед ізноў

палез на печ, лёг дый прамаўляе:

— Расьці, бабок, пад дашок! (дах), А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад дашок! А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад дашок! А гарошык пад лаўку!

Боб вырас да самага даху, а гарошык расьце ды сьцелецца пад лаўкай.

Дзед устаў, палез на страху, прадраў салому на страсе й даў волю бобу расьці яшчэ вышэй. Дзед палез на печ, лёг там дый прамаўляе:

— Расьці, бабок, пад нябок! (неба) А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад нябок! А гарошык пад лаўку!

— Расьці, бабок, пад нябок! А гарошык пад лаўку!

Гарашык вырос, адцвыцеў, на ім завязаліся й выраслі стручкі. Баба абабрала іх, зварыла, сама есьць і дзеда частуе. А дзедаў боб усё расьце ды расьце. Дзед вышаў на двор і глядзіць на свой боб, а ягоны верх схаваўся ў хмарах. Дзед думае: „Дзе-ж гэта верх майго бобу?"

На другі дзень дзед устаў заранье, пасьнедаў, надзеў чыстую кужельную сарочку й падперазаўся шырокім плеценым паясом з таўстымі кутасамі. Абуў новыя лапці. На верх сарочкі надзеў кужельны балахон, а на галаву надзеў лёгкую магерку. Дзед палез на свой боб, каб даведацца, дзе ягоны верх. Дзед лезе ды лезе, сядзе на суку, адпачне ды далей лезе. Да паўдня ён узьлез гэтак высака, што зямлі ўжо ня было відаць, але й верху боба ня відаць. Дзед быў чалавек упарты: калі ён пачне нейкую работу, дык даводзіў яе да канца. Паўднём ён быў параўняўся з сонцам. Пасьля паўдня сонца стала апускацца ніжэй, а дзед падымаецца вышэй і вышэй. Нарэшце ягоная галава упёрлася ў нешта мяккое, як кудзелю ды вільготнае. Дзед думае: „Калі боб прарос праз гэту мяккуху, дык і я пралезу". Дзед праціскаецца праз гэту вільготную кудзелю ды падаецца вышэй і вышэй, а гэта былі хмары. Нарэсьце ён пралез праз хмары. Перад ім росчынілася чыстая сьветлая бязконцая прастора. Тут стала дзеду так весела й прыемна, што ён забыўся й на боб, і на бабу, і на хату. Дзед ідзе й цешыцца гэтай сьветлай прасторай. А пад нагамі мяккая травіца, кветкі цвытуць і пахнуць, птушачкі пяюць на розныя галасы: цёпленька, але ня душна. Дзед намарыўся лазячы па бобе, дык захацелася адпачыць. Перад ім паказаўся нейкі гаёк, дык ён туды накіраваўся. А там пахнючых кветак поўна. Там былі й наськія кветкі й такія, якія ён першы раз бача. Ён і думае: „Пакуль тут што знайду зьесьці, дык трэба хоць пры-

легчы ды замгнуць на часінку". Аж раптам згледзіў:

Печ з перапеч зьбіта,
Блінамі накрыта,
Маслам абмазана
Ды есьці заказана.

Калі дзед убачыў печку, дык у ягоным роце стала сьліны прыбываць, і ён ніяк ня мог стрымацца, каб не зачапіць тэй печы. Дзед укленчыў ля печы й стаў яе грызьці. Ён наеўся печы, што аж спаць захацелася. Убачыў ён нейкае старое пашчапанае карыта. Ён падвярнуўся пад тое карыта й заснуў. Ці доўга ён спаў ці не, але яго разбудзіў нейкі ня людзкі лямант: „Мэ-э-э! Мэ-э-э! М-э-э!" Глядзніць дзёд праз шчэлінку з-пад карыта, аж блізка з паўкапы козаў круцяцца каля гэтай пагрызенай печкі ды дзіка лямантуюць. Можа за паўгадзіны козы заспакоіліся. Яны подаіліся, нарабілі масла, абмазалі печку. Потым яны ляглі адпачылі трохі, а тады ўсталі й пашлі на пашу, але адну аднавокую казу пакінулі тут вартаваць печку.

Ізноў дзеду захацелася есьці. Недалёка перад ім смачная пахнючая печка, але нямя як пакаштаваць яе, бо вартаўніца каза ня сьпіць. Гэты дзед быў знахар: ён умеў сон наводзіць. Ён пад карытам стаў шаптаць:

— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі адно во-о-очка!
— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі адно во-о-очка!
— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі адно во-о-очка!

Аднавокая каза заснула. Дзед вылез з-пад карыта, нагрызся печкі, ды ізноў схаваўся пад карыта й заснуў.

Ізноў разбудзіў дзедза казіны лямант. Козы прышлі з пашы аж аднавокая каза-вартаўніца сьпіць, і печ пагрызена. Яны як абступяць гэту казу, ды як пачнуць яе біць. Білі, білі, на сьмерць забілі дый за плот выкінулі. Праз нейкі час яны заспакоіліся, падаіліся, нарабілі масла, тварагу, абмазалі печку; адпачыўшы пашлі на пашу, а за вартаўніка пакінулі казу з двума вокамі. Дзед ляжыць пад карытам і думае: „Трэба й на гэту казу сон навясьці". Дзед ляжыць пад карытам, глядзіць на казу й шэпча:

— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!
— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!
— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!

Перш заснула адно вочка, а потым і другое. Дзед вылез з-пад карыта, нагрызся печы ды ізноў схаваўся пад карыта й заснуў.

Дзеда ізноў разбудзіў казіны лямант. Ён глядзіць праз шчэ-

лінку, аж усе козы збурыліся вірытам каля вартаўніцы-казы з двума вокамі ды б'юць яе. Яны білі, білі: на сьмерць забілі й за плот выкінулі. А далей на нейкі час заспакоіліся. Пасьля падаіліся, нарабілі масла, тварагу, абмазалі печку ды ляглі адпачываць. Адпачыўшы козы пашлі на пашу, а за вартаўніцу пакінулі казу з трыма вокамі. Дзед ня ведаў, што ў казы ёсьць тры вокі, але думаў, што толькі два. Ён ляжыць пад карытам, глядзіць на казу-вартаўніцу ды стаў на яе сон наводзіц:

— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!

— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!

— Сьпі адно вочка! Сьпі адно вочка! Сьпі дру-го-о-е!

Заснула адно вока, заснула й другое, а трэцяе вока, што было ў патыліцы глядзела. Дзед вылез з-пад карыта й пачаў грызьці печ. А каза-вартаўніца трэцім вокам, што было ў патыліцы, не спала, убачыла дзеда й закрычэла:

А козачкі! А матачкі!
Бардзей бяжыце сюды!
Я каця злавіла!

Козы прыбеглі ды давай дзеда біць рагамі ды таптаць нагамі. Козы б'юць дзеда, а дзед просіцца: „А козачкі? А матачкі? Біце колькі хочаце, але жывога пакіньце? Я буду вас пасьціць, буду вам сена касіць. Я прывяду вам сваю бабу. Яна будзе вас даіць, а з малака будзе масла й сыры рабіць. Козы пакінулі дзеда жывым, каб ён прывёў з зямлі сваю бабу.

Хоцькі-ня-хоцькі, але дзед быў прымушаны варочацца на зямлю да сваей хаткі, каб забраць з сабой сваю бабу. Яму доўга шукаць свайго бобу ня трэба было, бо ён там быў вышэй за ўсе расьліны й адусюль быў відаць. Дзед па бобе зьлез аж у сваю хатку. Ён расказаў бабе свае прыгоды, ды стаў заклікаць і бабу, каб з ім лезла ўгору на неба тых козаў даіць. Баба адмаўлаецца. Яна кажа, што ня мае сілы так высака лезьці, ды ей і галава круціцца, калі высака ўзьлезе. Дзед тады й кажа: „Садзіся баба ў рэзьґіні, дык я цябе туды занясу". Баба згадзілася. Дзед насьцяліў саломы ў рэзьґіні ды ў тую салому пасадзіў бабу. Дзед па бобе панёс бабу аж на неба. Баба захацела ўстаць, каб папрастаць здрантвелыя нагі. Яна немагла устаяць на здрантвелых нагах, звалілася далоў і забілася. Дзед ня ведае, што яму рабіць. Пайсьці на неба, дык баіцца, каб козы ня біліся, што бабы не прывёў. Палезьці далоў, дык што-ж яму там будзе за жыцьцё без бабы. Хто-ж яму там есьці навара ды абшые. Дзед павесіў свае рэзьґіні на бобе пад самым небам. І цяпер, калі няма хма-

раў, дык мы іх бачым у выглядзе паўмесяца. Сам дзед усё-ж адважыўся пайсьці на неба да козаў. Ён добра й зрабіў, бо козы яго ня толькі ня білі, але паставілі на небе гаспадаром над сабой.

## АЛЬХОВІЧЫК

Жылі дзед і баба. Яны жылі хоць і небагата, але й не галадалі, і жылі між сабой складна. Адно ў іх было нараканьне, што дзяцей ня мелі. Найгоры аб гэтым турбувалася баба. Яна сядзіць ды гавора толькі пра гэта: „Каб у мяне было дзіцятка, дык-бы я яго даглядала: купала, спавівала, калыхала". Яна пра гэта ўсё гавора ды гавора. Дзед думае: „Каб хаця баба з глузду ня зьехала. Трэба даць ей занятак".

Дзед быў добры майстра. Ён узяў альховае палена й з дапамогай сякеры, далата, разцоў, ножыкаў змайстраваў ляльку-хлопчыка, якраз як толькі народжанае дзіцянё. Баба заспакоілася. Яна стала насіцца з гэтай лялькай і пялегаваць яе, як і дзіця. Баба ляльку й купае й спавівае, й калыша, й гоцкае. У іх у хаце ў запечку заняла сваё месца й калыска, абвешаная белай пасьцілкай. Баба заўсёды калыша й гоцкае гэту ляльку. А калі сама скоіцца, зьнябудзецца каля гэтага дзіцяці, дык дзеда будзе, каб пакалыхаў, а сама кладзецца адпачыць.

Не прайшло й году, як дзіця адкалыхалі, ды яно аджыло й стала плакаць. А прайшло яшчэ адзін год, дык гэта дзіця стала хадзіць і пробаваць гаварыць, ды патрохі стала ўсё тое разумець, што старыя гавораць. Адна бяда была ў тым, што дзіця не расло. Гэтага хлопчыка старыя прызвалі Альховічык, бо ён быў з альховага дрэва. Хлопчык быў надта зґрабны: валасы ён меў беленькія аж жаўтаватыя, а сам увесь быў ружовенькі, як альховы коўш. Ён быў шустры, і браўся за розную работу, каб дапамагчы старым. Адна была бяда што ён ня рос, дык яго й куры не хацелі баяцца. Бывала ўбача Альховічык, што куры грады капаюць. Ён хоча бегчы, каб сагнаць, а баба на яго крычыць: „Сядзі, сядзі, Альховічык. Я сама згоню".

Аднаго разу Альховічык захацеў пайсьці ў лес у ягады. Зьбірае сабе Альховічык ягадкі, аж стала хмарыцца. Калі паліў вялікі дождж, дык ён сеў пад вялікім грыбам. Тут прабягаў галодны воўк. Бача ён што Альховічык сядзіць сьцюцюрыўшыся пад

грыбам. Воўк як хапіў яго, дык і глынуў жывога. Тут у ваўковым жываце Альховічык стаў расьці. Воўк ужо быў нярад, што глынуў Альховічка, але ня мог яго пазбыцца. Што Альховічык загадае, дык воўк прымушаны рабіць. А калі воўк не захоча яго паслухаць, дык Альховічык пачынае яго шчыпаць і драць за вантробы. Ваўку баліць, і ён мусе рабіць тое, што Альховічык загадае. Калі Альховічык захоча ягад, дык воўк ідзе зьбіраць ягады. Калі Альховічык захоча струкоў гароху, дык воўк прымушаны ісьці на поле ў гарох. Калі Альховічык захоча рэпы, дык воўк мусе ночы ісьці ў вёску ў гарод у рэпу. Альховічык у ваўковым жываце расьце: яму там робіцца цесна. Альховічык загадаў ваўку ісьці да дзеда на панадворак, а воўк баіцца, ня хоча, дык ён пачаў воўка шчыпаць і драць за вантробы дый нагамі брыкацца. Воўк нехаця пашоў.

Убачыў дзед, што на ягоным панадворку воўк з таўстым жыватом. Дзед выскачыў з хаты і сякануў яму сякерай па галаве. Воўк няжывы абваліўся. Дзед чуе голас: „Дзед, дзед! Разрэж воўку жывот, дык я вылезу". Дзед вялізным нажом разрэзаў ваўку жывот, дык Альховічык вылез. Дзед закапаў ваўка ў яму. Альховічык стаў жыць з дзедам і бабай. Ён як і ўсе іншыя дзеці стаў расьці й вырас у вялікага дзяцюка. Калі дзед і баба памёрлі, дык Альховічык астаўся гаспадаром на іхнай гаспадарцы.

## БУСЛАЎ СУД

Аднаго разу у канцы лета зблізку й здалёку пазьляталіся буслы й занялі ўсё поле. Між імі пахаджае адзін вялікі й стройны бусел. Ён калі абышоў і агледзіў усіх буслаў, дык падышоў да аднаго маленькага шчупленькага бусьліка, ударыў яго крылом, а сам узьняўся й паляцеў угору. А за ім паадным кожны бусел перш удара крылом гэтага бусьліка, а потым падымаецца й ляціць угору за правадыром. І гэткім чынам падняліся ўгору ўсе буслы высака, высака й сталі выглядаць маленькімі; і, немахаючы крыльлем, паляцелі ў вырай.

Маленькі шчупленькі бусел застаўся адзін. Ён адзін лётаў аж да зімы ды зьбіраў сабе такую-сякую пажыву. Калі стала сьцюдзена, дык ён стаў падыходзіць бліжэй і бліжэй да людзкіх сялібаў. Ён сьсябраваўся з сьвіньнямі й сьмела з імі падыходзіў да карыта ды еў мякіну абмешаную бульбай. А калі ад-

чынялі хату, дык ён ускакваў у хату й там шукаў ласейшага кавалачка ежы. Тут дзеці не марудзілі падкінуць яму вараную бульбіну ці аладку. Ён зімой не ляцеў начаваць на сваё гняздо, але пасяліўся пад паветкай на кучы сухога моху. Раніцай, як толькі саскоча з свайго начнога лагва, дык проста дыбаў у сенцы, а там пры першай нагодзе рупіўся ўскочыць у хату. Тут дзеці з ім дражніліся й тое-сёе падкідалі зьесьці.

Раніцай на Багавешчаньне быў ладны марозік, але была яркая раніца й ветліва сьвяціла сонца. У хаце палілася печ і пякліся аладкі. Бацька прышоў у хату й кажа да дзяцей:

— Пабачце, дзеці, ужо вун буслы прыляцелі з выраю й сядзяць на сваім леташнім гнязьдзе. —

Дзеці пабеглі на двор, каб пабачыць навы вырай. Хатні бусьлік у гэты час выкінуў з дзюбы аладку, выпрастўся, а пасьля падскочыў на прышечак і, шух! у печ, дзе палка гарэлі дровы, і адразу згарэў. Пакуль матка выкаціла яго качаргой з печы, дык ён быў ужо няжывы. Калі дзеці вярнуліся ў хату, дык убачылі свайго бусьліка ўжо няжывога й абсмаленага, які ляжаў сярод хаты выцягнуўшы ногі. Вясёлы настрой дзяцей перамяніўся на смутны. Яны сталі плакаць, бо надта ўжо прывыклі да свайго бусьліка.

***

Бабулька расказала дзецям пра бусьліны звычай. Яны выкідаюць з гнязда або яйка або жывое бусьляня. Калі выкінуць яйка, дык будзе добры год, — ураджайны, шчасьлівы, багаты; а калі бусьляня, дык будзе цяжкі год — голад, хваробы, беды. У канцы лета буслы грамадой лятуць у вырай. І кожная такая грамада перад адлётам у вырай пакідае сваю ахвяру — аднаго бусла, каб ён памёр з голаду й холаду за грамаду, каб грамадзе добра паводзілася ў дарозе й на чужыне. Вось бусьлікава грамада й прысудзіла гэтаму бусьліку памерці за сваю грамаду. Яму не хапіла мужнасьці выканаць прысуд грамады, і ён так-сяк пережыў зіму. Але калі ён пачуў, што буслы прыляцелі з выраю, дык ён адчуў вялікі сорам за невыкананьне прысуду грамады. Буслы вельмі сумленныя й мужныя птушкі. Яны свой асабісты гонар ставяць вышэй жыцьця. Той бусьлік палічыў, што лепі адразу згарэць на агні, як гарэць ад сораму перад грамадой за здраду.

# ХЛЕБ

У даўнкя часы на нашай зямлі здарыўся вялікі голад. У нікога ня было хлеба. Людзі галадалі, а з голаду хварэлі ды ўміралі. Каб выратаваць сваё жыцьцё ад галоднай сьмерці, людзі ішлі ў сьвет. Селянін Снапок гэтаксама пашоў у сьвет. Доўга ён ішоў, умарыўся, аслабеў, прыстаў у пень і ня мог далей ісьці. У ваднэй вёсцы ён і пытае:

— Людцы мае даражэнькія, дзе тут можна знайсьці каб што зьесьці, бо я з голаду аслабеў і не магу далей ісьці.

— Усе тут, чалавеча, людзі бедныя: самі галадаем, — адказваюць яму. — Адзін чалавек тут заможны: старога запасу мае. Ён кожнаму падарожнаму дае есьці й хлеба й да хлеба, але да яго людзі баяцца заходзіць, бо гэты добры чалавек мае благі звычай: калі падарожны чалавек у яго пад'есьць, дык ён у дадатак і кіем пачастуе ды гоне яго аж за браму. —

— Я-ж галодны й немагу далей ісьці, — думае падарожны. — Што будзе, дык будзе, але зайду. —

Падарожны папрасіў, каб паказалі яму хату таго заможнага гаспадра. Ён зайшоў у хату й прывітаўся. Яму ветліва адказалі на прывітаньне. Тады гаспадар пытае:

— Што скажаш, челавеча? —

— Я йду ў сьвет, змарыўся, зголадаўся, аслабеў і не магу далей ісьці, — кажа падарожны. — Ці не была-б вашеці ласка даць мне хоць што зьесьці. —

Гануля, Гануля! Гэты чалавек есьці хоча, — кліча гаспадар жонку.

Прышла жонка, белым абрусам заслала стол, прынесла вялікую булку хлеба. Гаспадар стаў кроіць хлеб і класьці ля падарожнага. Гаспадыня наліла міску смачнай затаўканай капусты, а пасьля гэткую самую міску бялёнай ґруцы, і падарожнага запрасілі есьці. Жонка заўважыла гаспадару, што шмат хлеба накроіў:

— Э, „Стол хлеба не паесьць!" Кажа наша прыказка, — адказвае гаспадар. — Нехай чалавек есьць, колькі яму трэба. —

Падарожны стаў есьці са спрытам галоднага чалавека, але захоўваў парадак пры ядзе ды ўсю вясковую далікатнасьць. Возьме ськівку хлеба, адломе над міскай сабе кавалак ды есьць, а

калі пры ядзе адваліцца крошка хлеба, дык ён яе падыме ды ўкіне ў рот. Нясучы лыжку да роту, ён падстаўляе кусанку хлеба. пад лыжку, каб часам страва не капнула на абрус. Падарожны пад'еў, а на стале засталося некалькі ськібак накроенага хлеба. Падарожны пазірае ў качарэжнік, дзе стаялі розныя кіі й думае: „Каторым кіем мяне будзе біць гаспадар." А гаспадар і ня думаў яго біць, а толькі сказаў сабраць са стала накроены хлеб у торбу ды яшче адкроіў таўстую абяртню хлеба ды падае яму ў торбу.

— А скажы мне, вашаць, — пытае падарожны: — калі я прышоў у гэту вёску, дык мне людзі казалі, што сам маеш хлеб і даеш кожнаму, хто ў цябе яго папросе, а пасьля, калі той пад'есьць, дык сам б'еш яго кіем ды гонеш яго аж за браму. Я спадзяваўся, што й са мной будзе тое самае, але таго ня здарылася?

— Праўда, я маю хлеб і даю яго кожнаму, хто ў мяне яго папросіць, — кажа гаспадар: — але я павінен бараніць хлеб ад таго, хто з яго зьдзекаўецца. Такіх людзей я павінен гнаць вон з хаты. А гэта бывае тады, калі нехта за сталом паломе хлеб на кавалкі, пакрыша на крошкі, паналівае стравы на стале, дык як-жа такіх людзей ня гнаць вон з хаты. Хлеб наша сьвятасьць. Мы хлебам жывём, дык мы павінны й шанаваць хлеб, як сваё жыцьцё.

У нашага народу спрадвякоў склалася пашана да хлеба. Калі кавалак хлеба зваліцца на зямлю ў пясок, дык наша кабеціна падыме яго, абдзьмухае абатрэ, а нават і пацалуе ды палoжа на стале, — значыцца перапросе хлеб, каб ня гневаўся ды не пашоў у прочкі. А калі хлеб ці крошкі забруджаныя й ня прыгодныя да ежы, дык яго аддаюць зьесьці жывёліне, а няма жывёліны, дык спаляць, але ня кінуць на зьдзек, каб ён валяўся ў шмяцьці. Хлеб у нас мае месца на стале. Ён кладзецца сярод стала й ухінаецца белым абрусам. Нават маткі малых дзяцей прывучаюць шанаваць хлеб, бо кажуць дзецям, каб яны падбіралі крошачкі ад хлеба ды елі, бо быццам гэтыя крошачкі будуць падтрымліваць дзяцей, каб яны не падалі з лаўкі ці печы. Калі мы спатыкаем вельмі паважных гасьцей, дык заўсёды з хлебам.

Я бачу, щто ты сумленны чалавек і з пашанай ставішся да хлеба, і знаць быў добрым гаспадаром. Хлеб часова пакінуў тваю хату, але ён хутка да цябе вернецца, бо хто шануе хлеб, дык хлеб таго ніколі не пакіне. Варочайся, чалавеча, да сваіх дзетак, бо сьвет вялік, але беднаму й сумленнаму чалавеку ня ўсюды

дадуць належную ўвагу й не дапамогуць у бядзе.

Ніхто чалавеку гэтак не дапаможа, як родная зямелька. Праўда, — летась твая зямелька цябе скрыўдзіла: не заплаціла табе за працу й прымусіла цябе з дзеткамі галадаць. Праўда, іншы раз бывае, як кажа наша прыказка: „Ня ніва родзе, а лета". Гэтак сталася й летась. Ніва твая зарадзіла-б, але лета не дазволіла. Варочайся, чалавеча, да сваей зямелькі й рыхтуй яе да пасеву, а пасьля прыдзеш да мяне, а я табе дам такога-сякога насеньня. Я шмат ня дам, бо сёлета шмат ёсьць людзей, якія адчуваюць патрэбу ў насеньні. Але й тое, што дам, дык ведай, густа ня сей. Заўсёды пры сяўбе памятай нашу прыказку: „Ня мы хлебам зямлю кормім, а зямля нас". Сей рэдка, бо йзноў-ж наша прыказка кажа: „Добры сябра таго ня дасьць, што благая зямелька". А твая зямелька й ня зусім кепская. Яна табе заплаце ня толькі за сёлетні год, але й за леташні верне.

## КОЛАС

Жыў у ваднэй краіне вірутны злодзі. Ён сваімі кепскімі паводзінамі пакрыўдзіў шмат людзей. Але ў натуры гэтага благога чалавека была добрая рыса: ён на полі шанаваў сьвятое дабрыцо й хлеб дома. Калі ён бывала йшоў красьці ці нёс накрадзенае, дык ён ніколі ня йшоў праз збожжа, а заўсёды яго абходзіў наўкола, хоць гэты клопат аб ушанаваньні дабрыца даваў яму шмат лішняй хадні. Крадучы ён заўсёды шанаваў печаны хлеб: бывала ён адкрое колькі яму трэба зьесьці, а рэшту паложа на сваім месцы, але ніколі не крышыў і не таптаў нагамі: ня зьдзекаваўся з хлеба.

Гэтага злодзея злавілі й прысудзілі да цяжкай кары, — павесіць. Яго аднае начы павесілі й пакінулі ў цемнаце. Калі на другі дзень прышлі зьнімаць яго з вісельні, каб пахаваць, дык там убачылі вялікі цуд: вырас з зямлі вялізны колас, а гэты злодзі сядзіць на ім, як на крэсьле, а вяроўка слабка ляжыць на ягонай шыі.

Гэтаму чалавеку даравалі жыцьцё й выпусьцілі на волю. Пасьля гэтага здарэньня ён налюднеў і ніколі болі ня крыўдзіў людзей. Людзі сталі яго шанаваць, як добрага чалавека й ніколі яму не ўспаміналі папярэдняга злачынства.

## ХЛЕБ У ПРОЧКІ ПАШОЎ

Калі расьце збожжа, дык на версе саламінкі вырастае колас, а ў коласе зярняткі. У даўныя часы пустой саламінкі ня было, але быў доўгі колас ад верху аж да зямлі. Людзі тады мала сеялі збожжа, а шмат мелі хлеба. Ніхто тады ня ведаў голаду.

„Чалавек гора вытрывае, а роскашы не". — кажа наша прыказка. Людзі з вялікай выгады, з вялікага дастатку сталі псавацца: яны перасталі шанаваць хлеб, а нават пачалі зьдзекавацца з яго. Нават дайшло да таго, што гаспадыні сталі блінамі сьціраць брудныя сталы й лавы, а нават сталі абціраць брудных дзяцей. Хлеб тады пагневаўся на людзей і пашоў у прочкі.

Толькі каты й сабакі шанавалі хлеб, яны падбіралі ды елі нават тыя брудныя бліны, што гаспадыні выкідалі на шметнік.

Людзі сеюць збожжа. Яно усходзе ды расьце, але адверху аж да зямлі пустая саламінка, а на версе адно зятрятка на насеньне. Гэтак было одзін год, другі й трэці. У людзей выйшаў увесь запас хлеба. Людзі плачуць і просяць хлеб, каб ён назад вярнуўся да людзей, і абяцаюць яго шанаваць. Хлеб ня хоча варочацца, бо людзі занадта ўзгнявілі яго.

Нарешце пачалі жаласна курняўкаць каты й выць сабакі, ды прасіць хлеб, каб ён вярнуўся з прочкаў. Хлеб зьлітаваўся над кацінай і сабачай доляй, дык і пачалі расьці на версе саламінкі маленькія каласкі, якія мы маем і цяпер. Гэтыя каласкі вырасьлі на каціную й сабачча долю, але з іх карыстаюцца й людзі ды жывяцца тым хлебам.

## ЯШЧАРКА

Жыў на сьвеце бедны селянін. Яму ў жыцьці не шанцавала: гаспадарка ня ручыла, жывёла не вялася й дзеці хварэлі. Жонка была сварлівая, і ў хаце былі заўсёды неспакой і звадка. Адно ў яго было шчасьце, што ён быў добры музыка й меў добрую іскрыпку. Ён любіў лес і поле, а асабліва свой шнурак, засеяны збожжам. Калі толькі ён меў вольную часіну, дык браў іскрыпачку, выходзіў за гумно на ўзгорачак, садзіўся на камен-

чыку ды йграў на сваей іскрыпачцы. Гукі ягонай галасістай іскрыпачкі разносіліся па полі, па лесе, па санажаці, і адбіваліся ад лесу цудоўным рэхам. Калі гэты музыка іграў на сваей іскрыпачцы, дык ён тады забываўся пра сваю беднесьць, гора й пра сваю язычлівую бабу.

Аднаго разу, калі ён гэтак іграў, з норкі выскачыла яшчарачка. Калі іскрыпка выдавала смутныя гукі, дык яшчарачка стаяла апусьціўшы галаву й слухала, а калі музыка іграў вясёлыя танцы, дык яшчарачка танцавала, і датуль танцавала, пакуль музыка не пераставаў іграць. А за ігру яшчарка плаціла чырванца. Кожны раз пасьля ігры яна кланялася, выплёўвала чырванца й хавалася ў сваю норку.

Музыка часта прыходзіў на гэту мясьціну іграць. Прайшло некалькі часу, дык у музыкі й грошы завяліся. А калі ён забагацеў, дык і дома стала шанцаваць: статак стаў вясьціся, дзеці перасталі хварэць і жонка паспакайнела. Цяпер толькі часамі жонка прыставала да музыкі з пытаньнем, адкуль у яго грошы бяруцца. Сьпярша ён толькі маўчаў ды ўсьміхаўся, а далі яна пачала горы прыставаць, пагражаючы:

— Ты напэўна красьці ходзіш. Я аб гэтым маўчаць ня буду. Я гэта ўсім людзям буду казаць.

Музыка мусіў прызнацца жонцы ўсю праўду, дзе ён грошы бяре. Тады жонка яшчэ горы узьелася на яго:

— Ды дзе-ж гэта відана, каб яшчарка грошы давала. Гэта-ж зьмей у выглядзе яшчаркі табе грошы дае. Відаць ты сам запрадаўся нячыстай сіле дый мяне з дзяцьмі хочаш запрадаць. Гэта-ж горы за зладзейства.

— Я іграў, каб разьвесяліць сваё гора. А калі яна пры гэтым паслухала маей ігры ды паскакала ды нават заплаціла, дык і дзякуй ей за гэта. Я-ж у яе платы не вымагаў, — правуецца музыка.

— Трэба змагацца з нячыстай сілай, — ня ўнімаецца жонка.

— Як-жа мне змагацца? — пытае музыка.

— Вазьмі з сабой сякеру ды йдзі на тое самое месца іграць, а калі яшчарка выскача скакаць, дык ты тады засячы яе, — навучае жонка.

Музыка паслухаў жонкі. Ён узяў сякеру пад пояс, а йскрыпачку пад паху й пашоў за гумно іграць. Ён сеў на камені, а сякеру паставіў ля ног. Калі ён пачаў іграць, дык яшчарачка, як

і перш, выскачыла з сваей норкі й пачала танцаваць. Музыка хоць і помніў загад жонкі, але ані рады ня мог падняць сякеры на нявінную вясёленькую яшчарачку. Колі музыка скончыў іграць, дык яшчарка ветліва пакланілася, выплюнула чырванца ды павярнулася да свае норкі. Музыка схапіў сякеру й з размаху секануў па яшчарцы, але пасьпеў адсеч у яшчаркі толькі хвост. Яшчарка тады, як крутанецца назад, ды падскоча аж да твару музыкі, ды як хваце яго за нос, дык і адкусіла. Сама тады скокнула ў сваю норку. Музыка тады ўзяў сваю сякеру й іскрыпку ды пайшоў дамоў.

Пасьля гэтага здарэньня музыка доўга хварэў. Ён хадзіў па дактарох ды па знахарох ды лячыў свой нос. На гэтыя лекі ён растраціў усе свае грошы. Калі ён пабяднеў, дык статак ізноў перестаў вясьціся, дзеці ізноў сталі хварэць, жонка ізноў горы, як перш, стала грызьціся.

Музыка, каб разьвесяліць сваё гаротнае жыцьцё, пайшоў ізноў на той самы камень іграць. Калі музыка зайграў смутную песьню, як і ягонае жыцьцё, дык яшчарка ізноў вылезла з свае норкі й стаяла смутная апусьціўшы галаву ды слухала песьню. А калі музыка стаў іграць вясёлыя танцы, дык яшчарачка пусьцілася танцаваць. Калі музыка перестаў іграць, дык яшчарачка ізноў выплюнула чырванца ды палезла ў свою норку. Гэткім чынам ізноў пачалося сяброўства бязносага музыкі й бязхвостай яшчаркі. Музыка ізноў стаў багацець.

Аднаго разу музыка пасьла свае ігры й танцаў яшчаркі пачаў перапрашаць яшчарачку:

— Выбачай, даражэнькая яшчарка, што я паслухаўшы сваей благой бабы, сапсаваў тваю аздобу, адсекшы твой хвост. —

— Ат! нічагусенькі! Я ані ня гневаюся за тваю распусту, — кажа яшчарка. Я ўжо даўна забылася пра гэта. А толькі калі гляну на твой нос, дык успомню на свой хвост. —

# РЫЦАР ДАБРАВІД

Жыў у сваім замку багаты князь са сваей князёўнай. У іх радзіўся хлопчык. Яго назвалі Дабравід. Князева жонка памёрла, дык ён ажаніўся другі раз. У другой жонкі нарадзілася шмат сыноў. Мачышыны сыны крыўдзілі Дабравіда. Калі князявы сыны павырасталі, а князь састарэўся, дык мачыха стала намаўляць старога князя, каб ён зажывосьцю разьдзяліў сваё багацьце сваім дзецям. Стары князь на гэта згадзіўся. Сталі дзяліць коні гэткім парадкам: усе князевы сыны стануць ля сьцежкі, а выпушчаныя коні будуць ісьці тэй сьцежкай. Каторы конь катораму сыну паклоніцца, таму ён і застанецца.

Выпусьцілі коні. Яны ішлі сьцежкай і кланяліся мачышыным сынам Князю-сіраце ніводны конь не пакланіўся. З яго сьмяюцца, кпяць, наругаюцца яму.

— Ці ўсе коні выпусьцілі? — пытаецца князь.

— Яшчэ кароставы жарабочык ня выпушчаны. Але ён уставаць ня хоча, — кажа канюшы.

— Выпусьціць і яго, — загадаў князь.

Выпусьцілі й кароставага жарабочка. Ён ішоў сланяючыся. Але, калі параўняўся з Дабравідам, дык і пакланіўся яму.

— Ха, ха, ха, ха! — Сьмяюцца мачышыны сыны: — Няхай яму й застаецца гэты здыхляк! —

Князь-сірата ўзяў кароставага жарабочка. Стаў сам яго даглядаць — карміц і паіць. Каб вылечыць ад каросты, малады князь сам капаў карэньне атрутных траваў, сам іх варыў ды мыў тэй вадой свайго жарабочка. Часамі казаў яму:

— Мы з табой два гаротнікі. З нас абодвух сьмяюцца, намі пагарджаюць, нас ня любяць, але мы адзін аднаго любім, адзін аднаму памагаем. —

Малады князь хутка вылечыў свайого жарабочка. І калі добра даглядаў: чысьціў, карміў, паіў, мыў, дык ён хутка рос. Да гэтага часу жарабочык стаяў у гусіным хлеўчыку, але, калі ён стаў папраўляцца ды расьці, дык яму стаў цесен гэты хлеўчык. Дабравід пашоў да бацькі прасіць лепшага хлеўчыка:

— Татулька, татулька! Майму жарабочку стаў цесен гэты хлеўчык. Дазволь паставіць у якім іншым хлеўчыку.

Бацька дазволіў Дабравіду паставіць свайго коніка ў сьвінным хлеўчыку. Хлопец добра даглядае свайго жарабочка, а ён расьце й дужэе. Князевіч ня можа нацешыцца сваім выхаванцам. Ён вышаў рослым, стройным, складным: перадзісты, шыя гарбатая, крыж шырокі, грыва й хвост кунатыя, капыты кубкаватыя й моцныя. Калі глядзець на яго, дык здаецца, што гэта не жывы конь, але маляваны. Дабравід пашоў да бацькі прасіць лепчага хлеўчыка для свайго жарабочка:

— Татулька, татулька! І гэты хлеўчык зацесны й занізкі для майго жарабочка. Ці ня можна падшукаць лепшага хлеўчыка.

Стары князь сам пашоў пабачыць, што там за конь вырас з леташняга здыхляка. А калі пабачыў, дык цешыўся з яго й дазволіў паставіць яго ў вагульнай стайні.

Але й у далейшым часе Дабравід сам даглядаў: паіў, карміў і чысьціў свайго каня, бо ягоны конь нікога іншага да сябе не падпускаў.

Мачышыным сыном стала зайздросна, што Дабравід мае лепшага каня за іхных коні. Ды ня толькі іхных, але ў цэлай акрузе ня было гэткага стройнага й прыгожага каня. Мачышыны сыны сталі прасіць Дабравіда, каб ён ім адступіў свайго каня. А Дабравід стаў з іх жартаваць кажучы:

— Нашто вам гэткі конь? Вы-ж на ім езьдзіць не патрапіце. Калі-б хто з вас папробаваў сесьці на гэтага каня, дык-бы ён скінуў і забіў таго.

Мачышыны сыны пажаліліся мацеры, што Дабравід ня толькі не адступіў ім каня, але высьмеяў перад дворняй. Мачыханазводзіла старому князю на Дабравіда, што быццам ён хоча перахапіць уладу ў старога князя. Яна са сваімі сынамі дамагалася перед старым князем, каб страціць Дабравіда. Стары княз доўга не згаджаўся на гэта. Але мачыха й ейныя сыны так настырліва дамагаліся страты Дабравіда, што нарешце стары князь прыстаў на іхныя дамаганьні.

Калі Дабравід даведаўся, што яго хочуць загубіць, дык ён пажаліўся свайму каню:

— Ты ня ведаеш, мой косю, што я ня доўга буду дагладаць цябе й цешыцца з цябе. Мае ворагі наважылі мяне загубіць. Яны доўга дамагаліся перед маім бацькам, але ўжо стары князь, мой бацька, даў згоду на гэта. —

— Ня журыся, не бядуй ды слухай маей парады, дык усё будзе добра, — сказаў конь: Хоць бацька й даў згоду на тваю загубу, але ты ў яго міласьці не прасі, каб цябе пакінулі жывым, але толькі папрасі, каб табе справілі рыцарскае убраньне й узбраеньне ды ў гэтым убраньні й узбраеньні дазволілі на мне тры разы аб'ехаць навокала палацу. Бацька на гэта згодзіцца. І калі ты трэці раз будзеш аб'яжджаць навокала палацу ды параўняешся з брамай, тады вытнеш мне па шыі рукой, а я вытну па зямлі капытамі, і мы з табой апынёмся аж за брамай. За намі будуць гнацца, але не дагоняць.

Аднаго разу прысылаюць па Дабравіда, каб прышоў у палац. А там старэйшы дружыньнік абвясьціў волю князя ды аб'явіў яму дзень і гадзіну ягонай сьмерці. Дабравід сказаў старэйшаму дружыньніку:

— Перадай князю, што я хоць і ня вінны але з гонарам і парыцарску прымаю ягоны прысуд, ды мой гонар рыцарскі патрабуе памерці рыцарам; дзеля гэтага прашу князя справіць мне рыцарскае убраньне й рыцарскае узбраеньне. Я ў гэтым адзеньні ды з гэтым узбраеньнем мушу перад сьмерцю тры разы аб'ехаць навокала палацу.

Старэйшы дружыньнік пашоў да старога князя. Ён хутка вярнуўся й передаў Дабравіду:

— Стары князь задаволены тваею сьмеласьцю й рыцарскай адвагай. Тваё жаданьне будзе выканана.

У назначаны дзень і гадзіну прыносяць Дабравіду рыцарскае адзеньне й рыцарскае узбраеньне. Уся дворня й дружыньнікі былі на дварэ. Дружыньнікі занялі стражу ў замку. Асабліва пільна вартаваліся брама й мост.

Дабравід сеў на свайго слаўнага й вернага каня. Ягонае адзеньне й узбраеньне зіхацелі на сонцы, што здавалася з яго золата капала.

Дабравід паехаў да палацу, каб каля яго зрабіць вызначаны аб'езд. Усе прысутныя, а нат і стража захапіліся стройнасьцю й прыгожасьцю рыцара й ягонага каня. Калі ён трэці раз аб'яжджаў навокала палацу ды параўняўся з брамай, дык выцяў рукой па шыі свайго каня. Конь у гэты мамэнт ударыў капытамі ў зямлю ды з хуткасьцю бліскавіцы апынуліся за брамай і мостам. Толькі тады прыбрамная й маставая стража схамянулася дзеля чаго яна была пастаўлена, калі Дабравід на сваім кані быў аж пад лесам. Стража пусьцілася наўзгадон, але для ўсіх бы-

ло відаць, што гэта дарэмная трата часу. Дабравід ехаў шпарка, нарэшце стаў ехаць памалу, а конь яму й кажа:

— Калі мы шпарка будзем ехаць каля карчмы, дык там будзе развешана рознае адзеньне. Там ты сабе схопіш верхнюю йісподнюю вопратку.

Ветрам лаціць рыцар каля карчмы. Ён на ляту хапае адну верхнюю й адну йсподнюю вопратку.

— Вэй, вэй! Рыцар! Насто адзезу ўзяў? — крычаць з карчмы. Рыцар не спыняўся, а толькі сыпнуў жменю срыбных манэт. Ехалі яны яшчэ доўга ды нарэшце ў ляску спыніліся. Рыцар пераадзеўся ў простае адзеньне, а сваё рыцарскае адзеньне й узбраеньне зьвязаў і прывязаў на сядле. Конь рыцару сказаў:

— Выстружы ў мяне на лобе грывы й заўсёды трымай яе пры сабе, а калі я табе спатрэблюся, дык ты ў тую грыву сячы агонь, а я зараз-жа да цябе зьяўлюся.

Дабравід выстрыг у каня на лобе грывы, схаваў яе ў сябе на грудзях пад адзежай ды разьвітаўся з сваім канём, сказаўшы:

— Бывай здаровы, мой косю!

Конь яму пакланіўся ды пабег у лес.

Тут непадалёку жыў у сваім замку багаты й магутны князь. Дабравід пашоў у двор гэтага князя прасіцца на работу. Сьпярша яму адмовілі, а потым канюшы паўзіраўшыся на яго, паклікаў яго на стайну да працы. Ён стаў працаваць на стайне простым работнікам, а потым маладзейшым служкам. Часта бывала, калі Дабравід абазволіцца на стайні ад сваей працы ды замаркоціцца па сваім кані, дык выйдзе за сад, возьме валасок з грывы свайго каня, палажа яго на крэмені, ды вытне красівом, — зараз-жа зьяўляецца ягоны конь. Дабравід адзяецца ў рыцарскую вопратку ды прыбяраецца ў рыцарскую зброю, садзіцца на свайго каня ды носіцца на ім па ўсім полі аж да лесу.

У гэтага князя была адна дачка, а яна была надта прыгожая ды разумная. Стары князь ганарыўся ею ды цешыўся з яе. Яна адна часта забаўлялася ў садзе. Аднаго разу яна заўважыла, што нейкі прыгожы рыцар у дарагім і прыгожым адзеньні пры дарагім узбраеньні разьяжджае ды гарцуе каля іхнага саду ды па іхным полі, а гэткага прыгожага ды вёрткага каня яна яшче ніколі ня бачыла. Княжна сьперша ўсё здалёку пазірала на таго рыцара, а пасьля перамагаючы сваю нясьмеласьць, нечакана вышла на спатканьне рыцару. Дабравід на сваіх пагулянках ухіляўся ад спатканьня з усімі людзьмі, а асабліва з двара свай-

го гаспадара. А гэта спатканьне было настолькі нечаканым, што ён не пасьпеў збочыць, а цяпер было позна дый недалікатна, каб рыцар ухіляўся спатканьня з паненкай. Як патрабавала рыцарская прыстойнасьць і далікатнасьць, ён ветліва скланіўся й прывітаўся з незнаёмай паненкай дый паехаў.

— Лепі сьцерагацца, каб ні з кім знаёмым не спаткацца, — думае Дабравід, ды спыніў свае пагулянкі на кані.

Дабравід некалькі разоў паненку бачыў і знаў, бо выконваючы свае абавязкі на стайні, мог з ей спатыкацца. Але паненцы не цікава было й не патрэбна знаць усіх работнікаў ды слуг свайго бацькі.

Гэта князёўна вельмі зацікавілася маладым рыцарам. Яна хацела бліжей пазнаёміцца з ім. Штодня яна наведвала тое месца, дзе з ім спаткалася. Але шмат дзён прайшло, а яго як няма, дык няма.

— А чаму-ж перш, калі я не выходзіла да яго на спатканьне, дык часта ён гарцаваў і насіўся на сваім стаенніку, — думала яна й наракала на сваю неадвагу й нясьмеласьць, што не пазнаёмілася з ім: — Калі-б яму й нецікава было спаткацца са мной, дык ён гэткі далікатны неадважыўся-б адмовіцца спаткацца са мной. —

Да Дабравіда дайшлі весткі, што хутка мае быць вайна, што й ягонаму гаспадару з сваім войскам будзе патрэбна вырушыць на вайну. Ягоная рыцарская натура цягнула яго на вайну. Дабравід надумаў праверыць свае уборы й зброю, а дзеля гэтага ён мусіў выклікаць свайго каня. Перад вайной, як старыя дружыннікі, так і маладыя служкі, як ён, былі заняты працай ад раньня да вечара: правяралі коні, чысьцілі зброю й амуніцыю. Дабравід у час паўднёвага адпачынку выскачыў за сад ды выклікаў свайго каня. Конь прыбег. Ён уважліва праверыў сваё адзеньне, зброю, праверыў сядло, памацаваў падпругі, Ён сеў на свайго каня й ветрам панёсься па полі. Каб праверыць моц сваей шаблі, на ляту выхапіў яе ды стаў каля дарогі сеч кусты. Тут пападаліся дрэўцы блізка ў ваглабню, але ягоная шабля ўсё чыста касіла, як вострая каса маладую атаву. Маючы мала часу, ён шпарка вяртауся да двара, каб не спазьніцца на працу. Калі ён памалу аб'яжджаў рог саду, дык неўспадзеўкі на спатканьне з-за густых кустоў вышла паненка, якую ён тут і перш спатыкаў. Дабравід перш аж зжыхануўся, але борзда аўладаў сабой і прывітаўся рыцарскім звычаем. Ён стараўся не спыняцца, адно — што часу ня было, а другое баяўся, каб яго не пазналі ў рыцар-

скім уборы. Але як наліха ў паненкі выпалі пальчаткі, дык мусіў саскочыць з каня й падаць ей. Жаданьне князёўны споўнілася: размова пачалася, але яна па мове й рухах уцяміла, што рыцар некуды сьпяшаецца. Усё-ж такі яна адважылася прасіць рыцара пра наступнае спатканьне:

— Я адчула-б сябе шчасьлівай, калі-б на гэтым месцы ізноў Вас спаткала. —

— Ня ведаю ці зможа паўтарыцца для мяне сёньняшняе шчсаьце, бо ў нашай краіне паветра напаўняецца бразгам зялеза й пахам пажарышчаў, — сказаў ён: — Мой стан кліча мяне да чынаў. —

Князёўна шмат што хацела сказаць, шмат што запытацца, але ў яе думкі пераблыталіся, і яна падала руку на разьвітаньне. Паненка павярнулася ў сад, а Дабравід паехаў да бліжэйшага гайка. Там шпарка перапрануўся, адпусьціў свайго каня, а сам пасьпяшыў на працу.

Назаўтра князь са сваім войскам выпраўляўся на вайну. Дабравід прасіўся ў князя ехаць на вайну. Князь яму дазволіў, як маладзейшаму служку ехаць з возам на благіх конях і везьці запасную зброю й харчавеньне.

Кожнага раньня князь з усей дружынай ехаў на вайну. Дабравід першы дзень, як яму належыла, паехаў з-заду за сваім войскам, але ягоныя коні былі слабыя, а дарога гразкая, дык ён мусіў прызастацца, а нарэшце коні зусім прысталі. Дабравід іх распрог, падкінуў сена, а сам выклікаў свайго каня. Калі зьявіўся конь, дык Дабравід убраўся ў рыцарскае адзеньне, узброіўся рыцарскай зброяй ды паехаў на поле бітвы. У той час варожае войска націскала на войска ягонага князя ды пачалі яго абкружаць. Дабравід нечакана з-пад лесу напаў на заднюю частку варожага войска. У ворага пачалося замяшаньне. Князь са сваей дружынай націснуў на варожае войска й разагнаў яго. Князь заўважыў дапамогу нейкага невядомага рыцара, але гэты рыцар нават не пад'ехаў да яго, а павярнуўся ды паехаў у лес.

Дабравід прыехаў да свайго возу, пераадзеўся ў простае адзеньне, адпусьціў свайго каня, запрог коні ў воз ды паехаў дамоў. Коні йдуць марудна, бо колы то перакочваюцца праз калоды, то завальваюцца ў кулдобы. Едзе князь з дружынай дамоў ды мінаюць яго. Дружыннікі з яго жартуюць:

— Вось дзе ваяка з вайны едзе. Колькі-ж ворагаў забіў. Можа ранены, што так марудна едзеш? Яны Дабравіда памі-

налі ды шпарка паехалі да двара, каб там хваліцця пра сваю перамогу над ворагам. Калі Дабравід прыехаў да двара, дык было ўжо позна. Ён адпрог і дагледзіў коні ды лёг спаць, каб заўтра рана ўстаць ды раней выехаць на вайну.

Назаўтра ён выехаў досьвіта. Ён едзе памалу, бо дарога вузкая балоцістая, а па ей то гаці то лужы. У лужах воз завальваецца й спыняецца, Даганяе яго князь з дружынай. Некатарыя маладзейшыя дружыньнікі, што перш з ім працавалі на стайне, з пагардай крычаць:

— Або едзь, або на бок зварачавай! Што ты замінаеш нам. —

Пад канец дарогі ягоныя коні замарыліся й аслабелі. Дабравід зьехау на бок, выпраг іх ды падкінуў ім сена. Сам выклікаў свайго каня, убраўся, узброіўся ды паехаў на поле бою.

Гэтак штодня Дабравід езьдзіў на вайну. Гэтак штодня ён памагаў свайму князю. Ягоны князь заўсёды меў перамогу над ворагам. Князь быў надта ўдзячны невядомаму рыцару, але ня меў мажлівасьці яму падзякаваць, бо пасьля кожнай бітвы рыцар ад'яжджаў у лес.

Аднаго разу шматлікае варожае войска абкружыла князя й ягоную дружыну. Князь з сваім войскам нават хацеў уцякаць, але ўжо ня было куды. Яны бараніліся мужна й зацята, але бачылі, што не надоўга хопе сілы, бо шмат князевага войска было то пабіта то паранене. Аж адкуль ні возьмецца з-пад лесу невядомы рыцар у прыгожым убраньні на быстрым кані. Быстрынёй бліскавіцы ляціць гэты рыцар да варожага войска ды направа й налева расьцярэблівае дарогу, дзе быў князь абкружаны ворагам. І направа й налева валяліся ворагі то пабітыя, то параненыя. Невядомы рыцар тады быў дабраўся да князя, калі начальнік варожага войска накіраваў сваю дзіду проста князю ў сэрца. Ад узмаху шаблі невядомага рыцара ў варожага начальніка адвалілася на зямлю па плячо рука з дзідай. Невядомы рыцар і сам князь са сваім войскам гналіся за ворагам аж да самага лесу й шмат іх перабілі, а рэшта было абкружана й забрана ў палон.

Калі бітва спынілася, дык княз заўважыў, што рыцар бляднее й слабее. У яго вышэй калена была расьсечана нага. Князь тут-жа зьняў з шыі сваю шаўковую хустку й разадраў яе напалам. Адну палавіну палажыў сабе на шыю, а другой палавінай завярцеў рану невядомаму рыцару. Князь запрашаў рыцара ехаць да яго ў двор, але рыцар падзякаваў ды паехаў на сваім

кані да лесу. Князь з сваім вайскам паехаў дамоў у двор. Тут-жа за імі пагналі паняволеных ворагаў.

Позна ноччу прыехаў Дабравід са сваім возам дамоў ды быў моцна хворы. На другі дзень ён не ўставаў з пасьцелі. Ён ляжаў хворы ў сваей каморцы пры стайні.

Пасьля заканчэньня вайны ў чесць перамогі над ворагам у княскім палацы пачаўся банкет. Прыяжджалі да князя зблізку й здалёку госьці вітаць князя з перамагай над ворагом. Тут шмат было маладых гасьцей багатых і знаных паноў. Яны шмат каторы здалёку накіроўвалі гутарку на тое, каб стацца зяцем князя.

З таго дня, калі апошні раз паненка была на спатканьні за садам з невядомым рыцарам, яна стала задуманай і смутнай. Гэткі смутак яна мела ў час вайны. Не павясялела яна й пасьля вайны.

Неяк раз стары князь прышоў у пакой да паненкі ды завёў гутарку пра маладых паноў, што былі на банкеце ды пра ейнае замужжа. Дачка адказала бацьку, што ні за кога не мае намеру выходзіць замуж, бо ейная галава занята нейкім невядомым рыцарам, якога часто бачыла перад вайной, што насіўся на сваім цудоўным кані за іхным садам: „Я вышла-б замуж толькі за таго рыцара, калі-б ён сватаў. А за тых, што былі на банкеце за нікога не пайду", адказала дачка.

— Гэтыя невядомыя выдатныя рыцары часамі спатыкаюцца ў нашай краіне. Невядома адкуль яны зьяўлаюцца падзіўлаюць нас сваім уборам і ўзбраеньнем, дабратой і адвагай, дапамагаюць нам, але невядома куды зьнікаюць. Гэтак і я не магу забыцца аб адным рыцары. Калі пачалася вайна, ён штодня пруяжджаў на вайну. Сваім спрытам і адвагай зьдзіўляў і мяне й маё войска. Ён выратаваў мне жыцьцё, ён давёў мяне да перамогі й славы ў вайне. Калі я яго цяжка раненага запрашаў ехаць да мяне ў двор, дык ён адмовіўся ды паехаў у лес, можа й памёр у лесе. Вось такога рыцара я хацеў-бы мець за зяця, а пасьля мяне й валадаром маіх земляў і багацьця, — сказаў стары князь.

Калі князь апавядаў дачцэ пра каня, адзеньне, ды узбраеньне таго рыцара, дык яна аж зжыханулася, бо ўсё тое нагадвала таго рыцара, якого яна бачыла за садом. Але пра гэта бацьку нічога не сказала.

У гэты час князя паведамілі, што маладзейшы служка, які з хурманкай езьдзіў на вайну, цяжка хворы ўжо трэці дзень. Князь пацікавіўся паглядзець. За князем пашла й ягоная дачка.

Калі разьвярцелі раненую нагу, дык князь сумеўся, бо ягонай паловай хусткі была заверчаная наго ягонага служкі, дый і рана на тымсамым месцы, што была й у таго рыцара, што выратаваў князю жыцьцё. Князь паслаў па доктара. Калі князь пачаў клапаціцца каля хворага, дык і дачка здагадалася, што гэта напэўна той рыцар, што бацьку на вайне выратаваў, жыцьцё. Яна стала прыглядацца да хворага ды павачох і вуснах пазнала таго рыцара, якога спатыкала за сваім садам.

Прышоў доктар, агледзіў хворага ды сказаў, што рана хоць і запушчаная, але не безнадзейная: яе удасца залячыць. Дабравіда перанеслі у палац. Штодня да яго прыяжджаў доктар. Яго даглядала сама князёўна. Дабравід хутка стаў папраўляцца ды стаў выходзіць у сад на пагуланку. Ён апавядаў князю й князёўне пра сваё жыцьцё й прыгоды. А калі ён зусім паправіўся, дык пашоў за сад і выклікаў свайго каня. Там ён убраўся ў рыцарскае адзеньне ды ўзяў з сабой рыцарскую зброю ды прыехаў да палацу. Ніхто з яго папярэдніх супрацоўнікаў па стайні ня мог пазнаць у ім таго ціхага сьціплага служкі, але добрага конніка, які аб'яжджаў маладыя дзікія коні. З гэтага часу Дабравід ніколі не адпускаў і не прызываў свайго каня, а дзяржаў пры сабе, які стаяў на стайні.

У хуткім часе Дабравід ажаніўся з князевай дачкой. Князь справіў гучнае й гойнае вясельле. На вясельле было запрошана шмат гасьцей, але пачэснае месца займалі тыя маладзейиыя служкі й работнікі з якімі перш Дабравід працаваў на стайні.

І я там быў, мёд і віно піў, у роце ня было, а па барадзе пацякло.

У хуткім часе стары князь передаў Дабравіду ўсю каманду над войскам дый усю ўладу над княствам.

***

Быц-бы яно няведала ці праўда ці не, але старыя дружыньнікі, што жылі ў князя на ласкавым хлебе, дзеялі, што быццам Дабравідоў конь паходзіў з пароды тых коні, з якой паходзіў і конь бога Ярылы.

## ЗЬМЕСТ

Зайзрывая баба . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5
Плот з саломы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
Бусел . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
Лазюк . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
Зязюлька . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 12
Дзяцюкі чужынцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 14
Мядзьведзь 16
Канюх . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 16
Крот . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 17
Жораў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
Дзед і Козы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 18
Альховічык . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 22
Буслаў суд . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 23
Хлеб . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 25
Колас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 27
Хлеб у прочкі пашоў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 28
Яшчарка . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
Рыцар Дабравід . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 31

Printed by M. Sindikeli
G. A. Press, — 114 St Mark's Place, New York, N. Y. 10009